# Рабочы Бабруйска

11-17 мая 2000 г. Наклад 299 ас. Паштовая адраса: 213 807, Бабруйск, а/с 94, www.bobruisk.net Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА. №16


# ПЕРШАГА МАЯ МЫ ПАТРАБУЕМ!

**Сто год таму ў Мінску адбылася першая ў гісторыі Беларусі вулічная дэманстрацыя, прысвечаная 1 Мая. У ёй прымала ўдзел каля 200 рабочых. Гучалі заклікі: "Далоў самадзяржаўе! Няхай жыве палітычная свабода! Далоў дэспатызм!". Працоўныя нашага горада ўпершыню адзначылі першамайскае свята ў 1904 годзе. Колькасць удзельнікаў дэмастрацыі перавысіла 1200 чалавек, яны выступалі супраць самадзяржаўя, пагаршэння ўзроўня жыцця і распачатай руска-японскай вайны. Прайшло стагоддзе… Лозунгі, нажаль, засталіся актуальнымі і зараз, а вось свята страціла свой сэнс.**

Сённяшнія бабруйскія ўлады і іх паплечнікі зрабілі ўсе магчымае, каб ператварыць дзень барацьбы свядомых рабочых за



свае правы ў паказальную акцыю падтрымкі бязглуздага эканамічнага курса кіраўніцтва краіны. Перадсвяточны Бабруйск-2000, напэўна, не мог не выклікаць у простага чалавека настальгію аб бесклапотным савецкім мінулым: тыя ж шматкаляровыя сцяжкі; пагрозы ўсім, хто не з'явіцца на дэманстрацыю; нават і лозунгі тыя ж, толькі замест слова "партыя" – слова "прэзідэнт". Само "Свята працы" хутчэй нагадвала свята чаркі і шкваркі: з прылягаючых да плошчы Леніна дамоў зрабілі пітныя кропкі і масавыя прыбіральні.

Напэўна першамайскі фарс і скончыўся б добра для кіраўніцтва горада, але… У самы разгар свята да трыбуны з пакетам сацыяльна-эканамічных патрабаванняў, напісаных на плакатах, выйшлі прадстаўнікі бабруйскай дэмакратычнай апазіцыі. Мне – прадстаўніку "Рабочага Бабруйска" – выпаў гонар прымаць удзел у гэтай акцыі. Мы патрабавалі: годных для




чалавека заробкаў і пенсій, пуска ў 6-ы мікраараён тралейбуса і засялення мікрараёна "Заходні", увядзення ў эксплуатацыю паліклінікі ў 5-м мікрараёне і рашэння экалагічных праблем горада, асвятлення і асфальтавання прыватнага сектару. Заўважу, што гэтыя і іншыя праблемы патрабуюць неадкладнага вырашэння ўжо не адзін год, аднак мясцовыя улады замест рэальнай дапамогі лепяць помнік каню, сродкі, якія маглі пайсці на адукацыю і ахову здароў'я, ідуць на сумніўныя "святы".

Цяжка зразумець, чым кіраваўся і пад уздзеяннем чаго быў першага мая старшыня гарвыканкама Уладзімір Раманоўскі, але злабадзённыя патрабаванні жыхароў горада выклікалі гнеў чыноўніка. Прылюдныя кіданні нашымі плакатамі і абразы ў бок тых, каму павінен служыць, сведчаць калі не аб поўнай маральнай дэградацыі Бабруйскага гораданачальніка, то, дакладна – аб нізкім узроўне культурнага развіцця чалавека. Прабачце, Уладзімір Фёдаравіч, вас ніхто пад прымусам не прызначаў на такую адказную пасаду, і ніхто вам не перашкаджае выканаць тое, што было напісана на плакатах, а калі няздольны, то не валяйце дурня – займайцеся тым, на што здольны.

І на заканчэнне адзначу: мне было прыемна заўважыць, што ўсё больш і больш бабруйчан не жадаюць рухацца туды, куды іх цягнуць сённяшнія ўлады. Нягледзячы на запалохванні і падачкі, людзі разумеюць, што далей так жыць нельга. Дай Бог, каб мясцовыя ўлады зразумелі: цярпенне працоўных мае межы, і праблемы людзей патрабуюць сур'ёзнага падыхода.

**Алесь ЧЫГІР.**



КРИМИНАЛ

## Титовские мошенники

Цыганский поселок Титовка – самый, пожалуй, колоритный ныне район Бобруйска. С отъездом на свою историческую родину большей части местных евреев и исчезновением знаменитых еврейских кварталов вклад Титовки в бобруйскую самобытность значительно возрос. Да и как могло быть иначе, если здесь проживает многочисленная, шумная и пестрая, «группировка» представителей индийской народности – цыган.

Как и в старину, титовские цыгане занимаются своими «фирменными» промыслами, среди которых гадание, снятие порчи, коими промышляют женщины. В этом искусстве, а, точнее, обмане, цыганки достигли невиданной виртуозности. Причем, они не прочь «поделиться» секретами своего ремесла с другими – теми, кто годится для такого рода дел по своим личным качествам, по стремлению облапошивать мирных граждан. А такие всегда найдутся – широка натура человеческая. И не обязательно, чтобы «натура» эта была цыганской национальности, ведь аферизм – понятие наднациональное. Беларусам, например, даже легче «работать» – больше доверия.

Около года раскидывала по республике свои липкие, дурманные сети группа мошенниц, «принятых на работу» и обученных в Титовке. Занимались они так называемым снятием порчи. Трудились вдали от родного «гнезда» в небольших райцентрах, где народ попроще, понаивней. Да и жертв они себе выбирали среди неопытных девочек-подростков, охотно верящих в разные там чудеса и дивы дивные. Технология мошенничества, в общем-то, была проста. Основывалась она на знании человеческой психологии, красноречии и внушении.

Кому из нас не хочется уклониться от встречи с жестоким роком, избежать болезней и несчастий? А тут подходит приятная с виду женщина и, заведя речь издалека, делится своим горем и рассказывает, как ей помогла одна «знахарка». А потом уже «по-дружески» предлагает и девчонке провериться, не лежит ли, мол, и на ней какая-нибудь порча, наведенная недобрым человеком. Если нужно, то и явственное доказательство порчи приведет: когда технология отработана, и все идет по плану, это не составляет для аферистки труда. После таких примеров у напуганной девчонки обычно все плывет перед глазами, она тут же соглашается встретиться с «знахаркой» и принести якобы необходимые для процедуры снятия порчи изделия из золота и деньги. Дальше вообще начинается ужас какой-то, происходит прямо-таки материализация «страшилок» из городского фольклора. «Ведунья» потусторонним голосом говорит девочке: пойди ночью на кладбище, найди свежую могилу и закопай на ней золото и деньги! И хотя все это очень смахивает на историю, произошедшую с Буратино, девочки воспринимают сказанное всерьез, еще больше пугаются и просят помощницу «знахарки» сходить на кладбище вместо них. Ценности и деньги переходят в руки мошенниц, которые после ухода обнадеженной посетительницы, быстро снимаются с места и отправляются в другую область, другой райцентр...

По подсчетам следствия, за время своих гастролей аферистки подобным образом обманули 20 девочек. А прокололись совершенно случайно: родители одной из их жертв увидели, как дочь тайком взяла дома валюту и ценности и, расспросив ее обо всем, обратились в милицию. Мошенниц взяли с поличным. Позже состоялся суд, «прописавший» свое «лекарство» от порчи – конфискацию имущества, длительные сроки за решеткой.

Между тем, как оказалось, оперативникам рано почивать на лаврах: недавно в Брестской области была задержана аналогичная группа аферисток из Титовки. Велика вероятность того, что она не была последней...

**Анатолий САНОТЕНКО.**

ЭКОЛОГИЯ

## Могилеву не хватает кислорода

*МОГИЛЕВ ЗАНИМАЕТ ПЕРВОЕ МЕСТО В РЕСПУБЛИКЕ ПО УРОВНЮ ЗАГРЯЗНЕНИЯ АТМОСФЕРЫ!*

Весенние замеры уровня загрязнения воздуха, проведенные в разных районах города лабораторией радиационно-экологического мониторинга облгидромета, оказались для города неутешительными. Так, превышение предельно допустимой концентрации /ПДК/ в воздухе формальдегида наблюдалось во всех исследованных районах. Например, в районе железнодорожного вокзала его уровень составил 1,8 ПДК. В некоторых местах города была зафиксирована концентрация фенола, в 3,4 раза превышавшая санитарную норму, сероуглерода - в 1,2 раза. Максимальная концентрация аммиака составила 2,7 ПДК, диоксида азота - 1,4 ПДК.

Как отмечают специалисты, на экологическую обстановку в Могилеве влияют не только вредные выбросы автотранспорта и предприятий химической промышленности, но также и метеорологические условия. Иными словами, когда погода никуда, то и дышать в городе нечем.

В Бобруйске положение получше, хотя также наблюдается увеличение уровня загрязнения воздуха формальдегидом (1,7 ПДК). Но связано это, скорее, не с погодой, а с более насыщенным, чем в зимнее время, потоком автотранспорта.

**Анатолий САНОТЕНКО.**

КУЛЬТУРА

## «Юнацтва» - творчая справаздача

2 мая, аўторак. Пасля 17 гадзін да Палаца культуры "Шыннік" падцягваецца святочна апрануты люд. Шмат хто з кветкамі. Сёння – свята: выступае "Юнацтва".

Гэта стала гарадской традыцыяй, – ужо некалькі год запар 2 мая ансамбль паказвае, што зроблена за год. Адначасова старэйшыя выхаванцы ансамбля "Бабраня" здаюць "пераходны экзамен" у "Юнацтва". Сёлета такіх выпускнікоў – 16. Канцэрт доўжыўся больш за 3 гадзіны. Былі і народныя танцы (І аддзяленне), і эстрадныя (ІІ аддзяленне). Шмат апладысментаў дасталося ўлюбёнцу публікі Аляксандру Герасімаву ў ролі пана Быкоўскага. Зачараваў цудоўны "Пасадобль", у якім нават самыя маленькія танцоры ансамбля "Бабраня" стварылі вобразы ганарлівай дамы і галантнага кавалера.

Цяжка прыйшлося мужчынскай частцы "Юнацтва". Паколькі іх меньш за дзяўчат, прыходзілася ўдзельнічаць амаль у кожным танцы. Але танцавалі хлопцы проста выдатна!

Творчы склад з цягам часу мяняецца. Але ансамбль застаецца. І паранейшаму будзе візітнай карткай нашага горада.

**Людміла РОДЗІКАВА.**


55-81-78
*Каждый четверг с 15:00 до 18:00 вас слушает "Рабочы Бабруйска".*

СПОРТ

# «Белшына» – у паўфінале

Трэцяга мая лідэры нацыянальнага чэмпіянату – футбалісты бабруйскай "Белшыны" сустракаліся на сваім полі з віцебскім "Лакаматывам-96". Гэта была сустрэча ў фінале Кубка Беларусі сезона 99/00. Варта адзначыць, што менавіта гэтыя дзве каманды і рабіліся ўладальнікамі Кубка ў апошнія тры гады – двойчы "Белшына" і аднойчы віцебляне. Яшчэ адна цікавая дэталь заключаецца ў тым, што клубы ў гэтым сезоне (у рамках цяперашняга чэмпіянату) паміж сабой ужо сустракаліся. 21 красавіка ў Бабруйску "Белшына" ўпэўнена перамагла – 3:0.

Гаспадары выйшлі на матч у мацнейшым складзе: Платонаў, Свердлаў, Балтрушэвіч, Клімовіч, Балашоў, Кашкар, Э. Градабоеў, Хрыпач, Банул, Ланько, Дземідчык. Адсутнічаў толькі варатар Сяргей Жэмчугаў, які атрымаў траўму яшчэ ў час папярэдняй гульні. Невыразны футбол з павольным рухам і адсутнасцю думкі, прадэманстраваны футбалістамі абедзвюх каманд, прымусіў тры з паловай тысячы глядачоў сумаваць увесь першы тайм. А на прыканцы тайму госці ўвялі мяч з-за бакавой лініі ўкідам у штрафную пляцоўку "шыннікаў". Кузьмініч, сустрэўшы мяч, адразу адпасаваў свабоднаму Вехцеву, нізавы ўдар у вугал якога быў дакладным.

У другім тайме малюнак гульні змяніўся, узраслі хуткасці, і назіраць за паядынкам стала куды цікавей. Хутка віцебляне атрымоўваюць права на штрафны. Моцны ўдар у выкананні Трухава прымае на сябе штанга, потым мяч трапляе ў варатара і ужо ад яго выкатваецца на вуглавы. Так "Лакаматыў" страціў верны шанц трапіць ў паўфінал. Небяспечны момант ля сваіх варот прымусіў "Белшыну" закатаць рукавы і ўзяцца за справу як след. Галоўнай дзеючай фігурай у бабруйчан стаў 21-гадовы форвард Дзяніс Каролік, выйшаўшы на поле замест інэртнага Дземідчыка на 55 хвіліне. Спачаку, ён зрабіў галявы пас Дзмітрыю Балашову, удар якога (дапамог рыкашэт ад абаронцы) аднавіў раўнавагу ў ліку. А пазней ужо сам, пасля накіраванай верхавой перадачы Дзмітрыя, галавой дасылае мяч у "дзявятку" – 2:1.

Такім чынам "Белшына" выходзіць у паўфінал, дзе сапернікам нашых футбалістаў будзе сталічны клуб "Тарпеда-МАЗ". Гульня адбудзецца ў Мінску 19 траўня. Як вядома, толькі заваёва Кубка Беларусі пралажыць "Белшыне" шлях у еўракубкі ў гэтым годзе. Пажадаем ёй поспехаў і такой неабходнай зараз удачы.

**Віктар КАЧАН.**

# Пытанні і адказы па гісторыі Бабруйска

*Як апраналіся жыхары старажытнай Бабруйшчыны?*

Звесткі пра адзенне нашых далёкіх продкаў мы атрымліваем дзякуючы археалагічным крыніцам таго часу, якія дазваляюць скласці ўяўленне як аб мужчынскім, так і жаночым адзенні.



Вядома, што рабіць тканіну людзі навучыліся яшчэ ў каменным веку, з тых далёкіх часоў да нас дайшлі ўпрыгожванні з косці і бурштыну. Бронзавы век падараваў тагачасным модніцам і модніцам шэйныя грыўны, пярсцёнкі і бранзалеты з каляровых металаў.

Сапраўды рэвалюцыйным у тагачаснай модзе быў жалезны век, які пачаўся ў нашых мясцінах прыкладна ў VIII стагоддзі да нашай эры. Вядома, што ў модзе былі шарсцяныя і ільняныя тканіны, выробленыя з медзі і бронзы булаўкі, пярсцёнкі, падвескі, бранзалеты, пранізіні, ланцужкі.

Пэўны ўплыў на моду Бабруйшчыны часоў ранняга жалезнага веку мела мода скіфаў і сарматаў. У гэтыя часы нашы продкі насілі тунікі, спадніцы, кашулі, пакрывалы, плашчы. Верхняе адзенне звычайна зашпілівалася на плечы фібуламі. Асабліва моднымі былі гліняныя пацеркі, іх выраблялі мясцовыя майстры, а шкляныя траплялі да нас с прычарнаморскіх рымскіх правінцый. Так, на бабруйскім Фарштадце ў 1981 годзе была знойдзена шкляная ромбападобная блакітная пацерка, якую, напэўна, згубіла тагачасная мясцовая прыгажуня.

Значныя змены ў адзенні жыхароў Бабруйшчыны адбыліся ў канцы першага тысячагоддзя. Гэта звязана з развіццём гандлёвых сувязяў паміж Захадам і Усходам, а таксама прыходам нашы мясціны дрыгавічаў. З усходу да нас ішла візантыйская мода, а з поўначы — скандынаўская. Касцюм бабруйчан у пачатку другога тысячагоддзя складаўся з ільняной кашулі і паясного адзення – партаў у мужчын, спадніцы — ў жанчын. Насілі і сукенкі. Верхнім адзеннем былі світы, пакрывалы, кажухі, шубы. Значную ролю ў касцюме адыграў пояс. Паясы былі тканыя, шытыя з тканін, са скуры, з залататканай цясьмы.



Нашы продкі асаблівую ўвагу надавалі галаўным уборам. Яны былі паказчыкам сямейнага становішча жанчыны, а скруневыя кольцы, прымацаваныя да галаўнога ўбору, вызначалі прыналежнасць да таго ці іншага племені.

Відавочна, што мода — вельмі зменлівая дама. На кожным гістарычным этапе касцюм жыхароў бабруйшчыны меў свае адметнасці. Нашы продкі, як, дарэчы, і мы, ўважліва назіралі за модай іншых народаў, і тое, што іх прываблівала, яны пераймалі.

**Алесь ЧЫГІР.**

КУПИ-ПРОДАЙ

# Спасибо вам, товарищи хапуги

В конце весны такие товары первой необходимости, как дрова, уголь и торфяной брикет не пользуются ажиотажным спросом, и очередей в гортопе обычно не бывает. Вот в это-то время и пытается иной житель "частного сектора" – счастливый обладатель парового отопления в собственном жилище воспользоваться моментом, чтобы прикупить вожделенное топливо хоть чуть-чуть подешевле, да избежать заодно многочасовых и даже круглосуточных дежурств в гортопе.

Каюсь, и я, грешный человек, понадеялся ну-не то чтоб слегка обмануть государство (где уж мне), а просто хоть пару раз не позволить обмануть себя. Поэтому и явился в гортоп со своим отрывным талоном в конце апреля. И застал там таковые цены: 1 тонна брикета – 4.000 "новых" рублей, т.е. за 3 тонны предстояло заплатить 12.000. Ну, подумал, это еще сносно. А вот с 1 мая поднимется минималка, пусть те, кто не успел, тогда локти себе покусают. Однако радость была недолгой: хоть цены на топливо были еще "старые", зато успели вздорожать услуги трансагентства, расположенного в этом же здании: доставка топлива в Киселевичи (в черте города) – 7.500 руб., в Сычково – 15.000 руб., в Глушу около 20.000. Я тут прямо ох..., то есть очень сильно удивился. Где ж это видано, чтоб доставка товара на расстояние 10-15 км была дороже его стоимости? Поневоле вспомнила, что за морем телушка-полушка...

Но тут я снова посчитал себя самым умным и попытался договориться о том, что вот за брикет заплачу сегодня, а заберу его через недельку, когда найду транспорт подешевле. Вначале приемщицу уговаривал, потом пошел к директору гортопа с генеральской фамилией Батищев... Однако на все униженные просьбы ответ был один: сегодня плати – и сегодня же забирай товар, никакой предоплаты мы не берем. А на следующей неделе и цена уже будет совсем другая. Вот и думай, где срочно взять недостающие деньги.

К счастью, добрые люди в гортоповских кулуарах посоветовали не чикаться с трансагентством, а договориться напрямую с водителями. И что же вы думаете? Проще простого! Водители, посовещавшись, выделили из своей среды одного человека, имеющего какую-то старую путевку. Он сходил куда-то в бухгалтерию, где на путевке подправили "неправильную" дату, и я пошел платить за брикет.

— Что, вы уже со своим транспортом? – невинно поинтересовалась приемщица.

Я снова ох... очень удивился, но ответил, как положено:

— Да, уже со своим.

После чего мы с добрым водителем отправились к погрузчику.

Вообще погрузчик в этой истории мне понравился больше всех остальных. Это был небольшой, невероятно чумазый мужичишко, и со своей техникой он управлялся просто виртуозно. Чтобы он не разгневался и не насыпал клиенту мусора вместе с брикетом, ему полагалось дать всего-навсего 100 рублей. Вначале меня это даже удивило: что за сумма такая, даже на бутылку пива не хватит? Но за те 20 минут, которые я провел во дворе, погрузчик получил по "сотке" от четырех человек, включая меня. Таким образом, мужичишко работал со скоростью примерно 1 доллар в час. Птичка по зернышку клюет... А вам слабо, товарищи колхозники?

Вместе с водителем мы прошли на весовую, где никто из коллег по работе его почему-то не узнал и не спросил, куда это он намерен прокатиться. Присутствовал там и несгибаемый господин Батищев, который тоже, в свою очередь, не узнал ни меня, ни своего родного водителя.

Дальнейшее, в общем-то, уже не столь интересно. Топливо мы довезли до места как положено, и это обошлось мне на 5.000 руб. дешевле, чем услуги трансагентства.

Цель моей публикации – выразить большую благодарность простым советским работникам гортопа во главе с директором. Ведь нам, покупателям, в общем-то все равно, в чей карман лягут наши деньги, лишь бы хоть что-то и самим осталось. Спасибо вам, товарищи хапуги, что не позволяете государству совсем уж обобрать нас, простых нищих потребителей.

**Г. АНТОНОВ.**

ЭХ, ЖЫЦЦЁ...

# Язык як сродак пратэсту

Жыў-быў у адной вёсцы чалавек. Як ўсе, спіты і просты. Рабіў на ферме даглядчыкам. Пяць год запар хадзіў у адных і тых жа нагавіцах з латкай на срацы ды ў мурзатай кухвайцы. Са дня ў дзень харчаваўся толькі варанай альбо смажанай бульбай, калі-некалі са шкваркай. Краў у калгасе буракі, салому. Любіў як след нажлукціцца самагону. А потым совацца па вёсцы з чырвонай мордай, дасцёбваючыся да ўсіх знаёмых і незнаёмых. Барані вас Божа апынуцца на ягоным шляху. Вынікі самыя непрадказальныя. Змарнаваны час, сапсаваныя нервы, а, магчыма, і падбітае вока. Аднойчы п'яны "Рэмба" выйшаў на пагулянку і не ўбачыў нікога. Вуліца была пустая.

Тады звычайны чалавек рашыўся на незвычайную акцыю пратэсту. Кідаючы выклік замардаваным аднавяскоўцам, ён стаў пасярод дарогі і высалапіў свой вялікі вільготны язык. Сліна сцякала па ружовых шурпатых абрысах. Заспіртаваны мозг наведвалі даўнія крыўды. Мроіўся невыплачаны заробак, зневажальныя словы брыгадзіра, карова, атручаная калгаснай сілітрай.

"Ты што, з глузду з'ехаў, салапяка?" – гаўкнула праз плот суседка.

Язык схаваўся за рэдкай расчоскай зубоў. Вочы заўважылі ахвяру і засвяціліся шалёным бляскам. Ногі рушылі да суседскай хаты...

Суседку мне ні на грам не шкада. Не затыкай рот чалавеку, калі душа змагання просіць!

**Таццяна БАРЫСІК.**

АНЕКДОТЫ

**В**ылезли два червяка из навозной кучи. Маленький говорит большому:

— Папа, ты посмотри какое небо голубое, какая зеленая трава, какое благоухание! А мы сидим в таком дерьме...

— Понимаешь, сынок, существует такое понятие как родина.

**И**дет экзамен. Заходит пьяный студент:

— Драссь.. Вы.. Ик!.. У пьяных экзамен пр..пр..принимаете?

Профессор думает: «Да черт с ним, приму лучше сейчас, а то потом ходи, пересдачу принимай..» – и говорит:

— Да принимаю, принимаю, только быстрей!

Студент к двери поворачивается:

— Мужики!.. Заносите!

**К**ум, я только-что из Испании.

— Ну и что ты там видел.

— Корриду.

— А що це таке?

— Там бык одного мужика на рога поднял – насмерть.

— За что же он его так?

— А что бы ты сделал, если бы тебе перед носом красным флагом размахивали?

**С**идит доктор на приеме с больной головой после воскресной пьянки. Заходит пациент:

— Доктор, как мои анализы?

Доктор, держась руками за больную голову:

— У вас рак.

— Как, доктор?! Вы же говорили, КАМНИ!

Доктор, поднимая на него глаза:

— И под каждым камнем – рак!

**С**идят на льдине белая медведица с медвежонком. Медвежонок ежится от холодного ветра и говорит:

— Мать, а мать...

— Чего тебе?

— Мать, слушай, у тебя бурого или гималайского никогда не было?

— (Подумав) Гм, вроде нет. А что?

— Да что ж я, блин, так мерзну?!!

**Ж**арко. Крестьянина, едущего по грязной, пыльной дороге, совсем разморило.

— Не помню такого жаркого лета! – Бормочет он.

— И я тоже, – замечает лошадь.

— Что? Что такое? – вскрикнул крестьянин, – Первый раз слышу, чтобы лошадь говорила.

— И я тоже, – согласилась телега.